Год II. — № 24. Пятніца, 17-га чэрвеня (іюня) 1921 г. Цэна нумару 10 маран.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, за граніцу 250 польскіх марак.

Пачынаючы ад 21-га нумару падпісная цана на газэту „НАША ДУМКА“ **падвышана** да **150** пол. марак на тры месяцы, за граніцу — **250** пол. марак.

Усіх паважаных падпісчыкаў просім дасылаць розьніцу падпісной цаны.

**Рэдакцыя.**

## Туман разойдзецца.

Мы шмат адтрымоўваем пісьмаў ад сваіх чытачоў, якія няхітра, не газэтнаю, а зусім простаю сялянскаю моваю адзін перад адным стараюцца засьведчыць аб тым, што іх вочы праясьнелі, што яны, па меры большай і большай знаёмасьці з родным беларускім рухам, самі ўцягваюцца ў яго, павялічваючы сабою сьвядомыя нашыя сілы.

Нястача месца ў *тыднёвай* газэце не пазваляе нам адвясьці кожны раз хаця некалькі дзесяткаў радкоў для вольнай перапіскі з сельскімі чытачамі.

Ня наша віна, калі нам адмаўляюць у пазваленьні выдаваць газэту крыху часьцей, як адзін раз на тыдзень.

Ня мала мы адтрымоўваем і іншых вестак ад провінцыяльных чытачоў і корэспондэнтаў.

Мы часта мусім галасіць аб розных гвалтах нашага грамадзкага жыцьця ў далёкіх провінцыяльных кутках, якімі кіруюць ня ў меру заўзятыя, маладыя польскія адміністратары, ня ведаючы, альбо саўсім запомніўшы, дзе й сярод якога народу яны жывуць.

І відочна нечая старонная апека над намі вінавата ў тым, што наша часопісь, будучы высланай куды-нібудзь у Дзятлава, Слонімскага павету (Горадзеншчына) *не даходзіць да рук яе адрасатаў*.

Калі ў Дзятлаўскай паштовай канторы падпісчык наш пытаецца, чаму гэта так, дык чуе цікавы адказ: „Wydawać pańską gazetę jest zakazane“ (Выдаваць вашу газэту забаронена).

Гаворачы так, паштовы дзятлаўскі вураднік мусі на нечым апіраецца, бо самавольнае недапушчаньне ім газэты да падпісчыкаў пахне звычайным службовым праступком.

А гэткія праступкі, навет калі яны выцякаюць з самых глыбокіх „патрыятычных“ пабуджэньняў, робяцца толькі людзьмі, сумленьне якіх досіць запэцкана.

Кім „jest zakazane“, дзятлаўскі паштавік нашаму чытачу не адказвае.

Дык што-ж гэта такое?

За апошнія часы мы неяк пазапаміналі, што некалі былі на сьвеце тайныя цыркуляры, якія напэўна дахадзілі й да таго-ж самага Дзятлава, а можа навет і да таго самага паштавіка.

Ня хочацца верыць, каб гэтыя тайныя цыркуляры мелі якое-нібудзь месца цяпер у Горадзеншчыне, што трапіла праз рыскі мір у межы Польскай Рэспублікі.

Самі-ж палякі ня могуць нахваліцца тым, што ў іх ludowy (народны) ўрад і Рэспубліка, як мае быць, дэмакратычная.

А ў дэмакратычнай рэспубліцы павінен, мусі, вураднік-дэмакрат сказаць дэмакрату-грамадзяніну, хто і чаму забараняе яму, гэтаму грамадзяніну, адтрымліваць сваё друкаванае слова,—сказаць навет тады, калі грамадзянін гэты *ня мае шчасьця належаць да пануючай нацыі.*

Аб здарэньні на дзятлаўскай пошце мы друкуем провінцыяльную корэспондэнцыю сягоньня.

Не далей, як у папярэднім нумары мы падавалі паведамленьне нашага корэспондэнта з Докшыц, дзе прыводзіцца навет і № паперы Дуніловіцкага павятовага старасты, які забараніў ставіць беларускія спэктаклі для беларускага народу.

Сьмешна! Да болю сьмешна робіцца, калі прыпомнім сабе, што беларускі спэктакль можна было бяз ніякае перашкоды ставіць у такім многалюдным польскім месьце, як... Лодзь, а ў невялічкім гарадку Докшыцах — нічога падобнага руплівы пан староста дапусьціць ня можа...

Страшэнна прыкра, што нам даводзіцца, амаль штотыдня падаваць гэткія нялюдзкія балячкі нашага провінцыяльнага жыцьця.

Даводзіцца гэтым балячкам адводзіць гэтулькі часу і месца, што папростаму, пасялянску трудна даць магчымасьць выказацца, няшчодрым на палітычныя размовы, душам нашых провінцыяльных чытачоў, абуджаных да сьвядомага пазнаньня свайго нацыянальнага „Я“.

Але нас не палохаюць сучасныя туманнасьці нашага лёсу.

Сувязь беларускага друкаванага слова з сваімі чытачамі гэтак моцная сягоньня, ящчэ больш умацуецца заўтра.

Туман адміністрацыйных забаронаў сягоньняшняга дня разойдзецца, разьвеяны магутным ветрам свабоды.

Мы недаспадобы паном адміністратарам.

Ну, што-ж рабіць! Калі адміністратарскі паход на друк наш і памацнее, дык і гэта ня будзе дзівам.

Прыклад—адносіны палякоў да друку літоўскага.

Літоўскія часопісі спыняюцца, штрафуюцца, цягнуцца пад суд, але-ж гэта ня значыць што з ліцьвінамі ўжо ўсё і скончана.

Яны-ж такі жывуць.

Жывуць і боруцца за свае ідэалы.

Патрапім жыць і мы.

Патрапім вылезьці з сваімі ідэаламі з туману на сонца.

Бо — туман разойдзецца.

## √ БУДАВАНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ.

### I.

Калі выбранцы Беларускага Народу абвяшчалі тры гады таму назад у Радзе Рэспублікі *Незалежнасьць Беларусі*, прызнаўшы разарванай старую дзяржаўную сувязь нашае Бацькаўшчыны з Расейскім гаспадарствам, — тады з боку расейскіх эсэраў і бундаўцаў мы чулі вострыя закіды, што акт 25 марца — гэта „здрада рэвалюцыі“, „здрада ўсерасейскага пролетарыяту“, „здрада інтарэсаў беларускага сялянства“. Закіды гэтыя вызывалі толькі гіпкае пачуцьцё ў прадстаўнікоў беларускага сялянства, каторыя ўсе, як адзін чалавек, падалі свае галасы за незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі і за поўнае аддзяленьне яе ад Маскоўшчыны: было ўсім ясна, што не маскалём, не чужаком гаварыць аб нашым сялянстве, што сыны гэтага сялянства, засядаўшыя ў Радзе, самі добра разумеюць, што добра і што блага для беларусаў; было ясна, што праз вусны эсэраў і бундаўцаў прамаўляў укрыты маскоўскі цэнтралізм і імпэрыялізм, узьдзеўшы на сябе опратку соцыялізму.

Беларускай дэмакратыі не ўдалося правясьці поўнасьцю ў жыцьцё вялікую ідэю акту 25 марца 1918 году. Затое яна глыбока пранікла ў душы нашага народу, дайшла да самае глыбіні народных масаў і павяла гэтыя масы на аружную барацьбу за Беларускую Народную Рэспубліку. І хоць выступленьні беларускіх паўстанцаў, ня маючы ніскуль ніякае дапамогі, кожын раз тушыліся цэлымі патокамі крыві народнай, —усё-ж змаганьне за *дэмакратычную* Беларусь ня скончана: яно йдзе й будзе ісьці датуль, пакуль рука чужынцаў не перастане пасягаць на нашу волю і незалежнасьць; яно будзе сьведчыць, якія глыбокія карані пусьціла ў беларускім народзе незалежніцкая ідэя.

Ідэя, за якую змагаюцца шырокія народныя массы, раней ці пазьней будзе зрэалізована. Аб гэтым сьведчыць уся сусьветная гісторыя, сьведчыць барацьба за волю кожнага народу, каторы цяпер карыстаецца ўсімі выгодамі незалежнага істнаваньня. Таксама бязспорна зьдзейсьніцца ідэя незалежнае Беларусі.

Дый яна *ўжо рэалізуецца* — хоць няпоўна, хоць аднабока і ў другім відзе. Рэалізуецца яна пад відам *Савецкае* Беларускае Рэспублікі.

Ведама, тое, *як* яна рэалізуецца, ня можа здаволіць беларускай незалежніцкай дэмакратыі: Савецкая Беларусь—гэта няшчырая уступка маскоўскага цэнтралізму магутнаму дамаганьню волі і незалежнасьці з боку народных массаў Беларусі. Маскоўскі цэнтральны ўрад стараецца гэную „незалежную“ Рэспубліку так зьвязаць і тэрыторыяльна абкусаць, каб яна ня мела ніякае сілы, каб заўсёды пакорна спаўняла ўсе загады з Масквы. Паводле „дабравольнай“ умовы паміж Савецкай Расеяй і Савецкай Беларусьсю, падпісанай 16 студня с. г. ў Маскве Караханам і Адамовічам ад імя абедзьвюх «незалежных і сувэрэнных рэспублік“, сем беларускіх камісарыятаў: 1) ваенны і марскі, 2) найвышэйшая рада народнай гаспадаркі, 3) заграцічнага гандлю, 4) фінансаў, 5) працы, 6) шляхоў і камунікацыі, 7) почт і тэлеграфаў, — злучаюцца з такімі-ж камісарыятамі ў Маскве. Беларусам пакінуты толькі камісарыяты асьветы і ўнутраных справаў, ды якісь фікцыйны камісарыят заграцічных справаў істнуючы на паперы. Бяз свайго войска, скарбу — якая-ж тут „незалежнасьць“?

Затое з *праўнага боку* беларуская дзяржаўная ідэя здабыла вельмі многа. *„Незалежнасьць і сувэрэннасьць“ Беларусі афіцыяльна прызнаны як Маскоўшчынай, так і Польшчай* пры падпісаньні ў Рызе перш прэлімінарнай, а пасьля і аканчальнай міравой умовы. Умова-ж паміж Савецкай Расеяй і Савецкай Беларусьсю з 16. I. 1921 становіць новае заваяваньне беларусаў з боку дзяржаўнага права: у пункце 2 гэтае ўмовы гаворыцца ясна:

„2) Абодва гаспадарствы лічаць патрэбным заявіць, што... з факту колішняй тэрыторыяльнай прыналежнасьці Соцыялістычнай Савецкай Беларускай Рэспублікі да быўшай Расейскай Імпэрыі не вынікаюць ніякія абавязкі для Соцыялістычнай Савецкай Беларускай Рэспублікі“.

Гэтак сама Расея, сам *расейскі пролетарыят пацьвярджае ў поўным аб'ёме*

дзелы выглядалі, заднаго боку, быццам, і незалежныя—беларускія, а з другога—зусім, быццам, свае—польскія. Вось гэтыя варункі задавольненьня і тых і другіх стварылі у дэкрэце такую туманнасьнасьць і нявыразнасьць у аднашэньні падпарадкаваньня: залежнасьці Б. В. К. і штабу да ўладаў польскіх, што навет самі тыя беспасрэдныя ўлады—цывільныя і вайсковыя—ў паразуменьню з якімі павінна была вясьці сваю працу Б. В. К. і якім падлягала арганізацыйная праца камандуючага—самі не разумелі ні гэтае ступені залежнасьці ад іх фармаваньня беларускіх аддзелаў, ні свае правамоцнасьці да гэтае справы. І гэтая нявыразнасьць, выкліканая мажліва й іншымі варункамі, мажліва зробленая наўмысьля, а можа проста абмылка вайскова-тэхнічнае апрацоўкі дэкрэту, але яна, як з першых шляхаў, дык і за ўвесь час працы Б. В. К. і штабу з'явілася галоўнай перашкодай, галоўным тормазам для справы арганізацыі і фармаваньня беларускіх часьцей і першая зацягнула ўсю справу ў тое *заварожанае кола*, з якога Б. В. К. вылезла толькі па сваім уліквідаваньні.

**Г—ка.**

(*Працяг будзе*).

# Апякунскія развагі.

У артыкуле пад названьнем „Наша палітыка крэсова“, надрукованым у № 155 польскай газэты „Rzeczpospolita“, аўтар стараецца паказаць польскаму грамадзянству, што на „крэсах“ (гэтым разам у Галіцыі) вядзецца сусім не консэквэнтная палітыка, нямаючая на мэце ні дабра дзяржавы ні дзяржаўнай польскай думкі. Хочучы паказаць, якую трэба вясьці палітыку ў Галіцыі, каб сусім пакончыць з атакамі украінцаў проціў „быццам“, польскага ўціску і з'дзеку, аўтар, аднachасна даказавае, што гэтыя атакі украінцаў нямаюць ніякай асновы, і што у Галіцыі вядзецца навет завельмі паблажлівая палітыка ў адносінах да украінцаў і што там, як у краі „акупленым крывёй і ахвярамі палякоў“, без агаворак Польшчы няпрызнаным, патрэбна высунуць сваю дзяржаўную ідэялёгію сярод украінцаў, як элемэнту „маласьвядомага“.

Тым часам, гэты „маласьвядомы“ элемэнт, паўстаўшы пасьля распаду Аўстра-Вэнгрыі ад малога да вялікага патрапіў вясьці барацьбу на жыцьцё і сьмерць. Гэта барацьба, ў якой прымаў удзел увесь народ украінскі, нямаючы на гэта добра з'арганізаванай узброенай сілы, выявіла сусім ясна, як народ украінскі добра ўжо зразумеў, хто ён такі і чаго яму трэба. Аднак, тады мілітарная сіла Польшчы перамагла украінцаў, змусіла іх зложыць аружжа, а цяпер — яе палітыкі з „Rzeczypospolitej“ прыдумліваюць способы, якімі можна было-б духоўныя патрэбы украінцаў і рух украінскі спыніць: народ назваць несьвядомым элемэнтам, а правадыром даць рады ўладаю моцнай рукі,—„палітыкай консэквэнтнай, абапёртай на дзяржаўнай думцы“.

Паўстае пытаньне, чаму гэта яны так хацелі-б астанавіць адраджэнскі рух народаў?

Адказ на гэта знаходзім у тым-жа артыкуле, дзе аўтар нездаволены палітыкай, якая практыкуецца ў Галіцыі, піша: „У рэзультаце робіцца тое, што пад апякунчымі скрыдламі польскага ўраду ў цэлых паветах (напр. у Самборскім) зямля масай пераходзіць з польскіх рук у рукі... русінскія“.

У гэтых словах і крыецца увесь фундамэнт варожага настрою паноў з „Rzeczypospolit.“ да руху украінскага і беларускага. Ім добра вядома, што рух украінскі і беларускі ёсьць рух дэмакратычны, і што гэтыя народы, як толькі паўстануць да свайго незалежнага жыцьця, збудуюць яго на асновах найбольш адпаведных эканамічнаму становішчу краю і нічым няпрымушанай волі яго жыхароў. Вось прадбачачы гэта, і аднаchасна жывучы надзеяй: мо' знойдзецца яшчэ які гэнарал, а там,—мо' вернуцца старыя добрыя часы, ім хацелася-б хоць на нейкі час устрымаць хвалі дэмакратычнага, народнага руху, устрымаць тыя эканамічныя перамены, якія само жыцьцё пасоўвае наперад разам з ідэямі аб адраджэньні народаў. Гэтыя народы, агаласіўшыя пасьля упадку пануючага дому ў Расеі свой кліч да самабытнасьці, моцна цяпер ужо трымаюцца яго і ніякая „консэквэнтная палітыка“ моцнай рукі чужынцаў ня дасьць рады з тым, каб народ мог забыцца аб тым, што найлепшым у сябе гаспадаром можа быць толькі ён сам. Падобныя палітыкі з „Rzeczypospolit.“, якія бяруцца за няўдзячную працу і даюць інструкцыі, як патрэбна ўтрымацца і ўзмацаваць польскасьць на „крэсах“, толькі пацьвярджаюць словы францускага публіцыстага п. Debrou, каторы сказаў: „Польшча мае палітыкаў, але, шкода, нямае палітыкі“.

**Адам Вітт.**



# Братом.

Праклеенства нейкага пячатка на Народзе,
Што засяліў абшар ад Нёмна за Дняпро
І кожныя сто год апошняе дабро
Губляе ў полымі вайны, ды годзі.

У згодзе хоча жыць з суседзямі, а тыя
З Усходу, з Заходу руйнуюць быт Яго,
Ў палон забраўшы, лічаць за „свайго“,
Забыўшы ўсе правы яго сьвятыя.

Ці-ж Ён такі, як вы, браточкі-ненажоры?
Ці мову вашу ён, ці звычаі пабраў?
Мо' не сваю зямлю Ён, скажаце, згараў,
Чужыя мо' калі таптаў разоры?

Славянскае братэрства нібыто нясеце
З Масквы, або з Варшавы вы да нас;
Але-ж падумайце цьвяроза кожны з вас —
Ці не зашмат вы толькі нам даеце?

Маскаль, паляк пазнаў ужо здаецца,
Як, часам, лёгка рвуцца рабства ланцугі...
Ці-ж Беларускі Люд такі ужо благі,
Што Волі Сам, бяз вас, Ён не дабьецца?

Паверце, брацьця, шчодрыя на падарункі!
Навек рабамі стаць ня згодзімся і мы,—
Да вольнай працы выйшаўшы з турмы,
Палюдзку вашы „брацкія“ аплоціма рахункі.

Бо працу любім мы і ўмеем мусі жыці,
Калі дасюль яшчэ ня ўмёрлі, бедакі,
Бо ліцавалі-ж нас на розныя бакі
І не самім сабе вучылі нас служыці.

Цяпер мы ведаем: Зямля нам Беларуска — маці!
Яе палон, разьдзел—часовая бяда,
Бо Беларуская мільённа грамада,
Калі-нібудзь, патрапіць-жа сказаці:

— „Ва ўласнай хаце спалі мы адвеку;
Нас няжывымі ўжо лічылі мусі ўсе,
Бо хто хацеў толькі, то лазіў па страсе,
Пакуль пачуў: „Зямлі, свабоды трэба чалавеку“...
— І мы Народ жывы—ня раб, а Гаспадар!
І роўнай з іншымі заслужваема долі!
Мы трупамі усьцелем цяжкі шлях да Волі!
Хай соты можа з нас, а ўбачыць Яе твар!“

**Краўцоў Макар.**



## Беларуская нацыянальная праца ў Амэрыцы.

6 траўня а 2 гадзіне ўдзень у Брондэвіле адбыўся першы сход беларускае колёніі ў Нью-Йорку. Малады вучоны Гайдук прачытаў даклад аб сучасным палітычным палажэньні Беларусі, пасьля чаго быў яшчэ абмен думкамі.

Быў выбраны Беларускі Нацыянальны Камітэт, у які увайшлі п. п. Гамза, Гайдук, Крывульна, Зварына й Бубешка.

15 траўня ў Брукліне адбыўся масавы мітынг па пытаньню аб дапамозе Беларусі.

## Непраўдзівыя чуткі аб жыдоўскіх пагромах.

За апошнія часы ў варшаўскіх жыдоўскіх газэтах „Момэнт“ і „Гайнт“ зьявіліся весткі аб жыдоўскіх пагромах, нібыта зробленых беларускімі паўстанцамі. Паведамленьне гэтае было перадрукована гэтак сама й бэрлінскім „Мізрах Юд“.

Па адтрыманьні самых першых вестак аб антыжыдоўскім руху, мы незабаўна спраўдзілі гэта на мясцох і адтрымалі адтуль гэткі адказ:

Савінкаўскі варшаўскі „Русспрес“ распаўсюджывае ў апошні час шмат тэндэнцыйных вестак з Беларусі, каб толькі пашкодзіць нашаму руху. Непарадкі ў Магілёве й Віцебску былі зроблены не беларускімі паўстанцамі, якія гэтых местаў не займалі, а дэзэртырамі з чырвонай арміі, гэтак званымі „зялёнымі“, якія ў гэты час году хаваюцца ў лясох і адтуль абіраюць ваколічнае насяленьне. Апрача таго ў мясцох, што датыкаюцца да новай польскай граніцы, бадзяюцца розныя аддзелы „бацькі“ Булак-Балаховіча, якія тэрорызуюць беларускіх сялян і жыдоўскае насяленьне.

жыць чалавеку, маюць сілу валадаць над ім, сціскаючы і затрымліваючы яго духовыя імкненьні.

Формы жыцьця нам не накідаюцца, мы самі творым іх, мы самі, ў часе патрэбы, нядзявалі нашы ланцугі, але тады яны былі неабходнымі: стварылі сямью, гаспадарства, суд, касьцёл, партыю; гэта стварылі мы самі; шмат чаго ўжо сціскае, душыць нашу вольнасьць, але створаныя формы маюць сілу вялікай жыцьцёвасьці. Заместа таго, каб служыць чалавеку ў яго жыцьцёвых патрэбах, форма сядае яму на шыю, пачынае кіраваць чалавекам, заціскаючы сваей уладай праўдзівае чалавечае жыцьцё.

Змаганьне духу проціў запанеўшай формы становіць зьмест жыцьця й яго нядолю; патрэбна ліючаяся, зьменная, заўсёды адпаведная жыцьцёвым праявам форма, але гэтага—няма.

Форма—вынік чалавечай творчасьці, а чалавек творыць заўсёды кахаючы, ён любіць дзіця свае творчасьці, жадае яму вечнага істнаваньня: ў гэтым—першая падстава жыцьцёвасьці і сілы формы. Моральны закон, абычаёвае права, ў творчасьці якога прымае чын, амаль, што ўвесь народ, заўсёды мае ад'знаку боскасьці. Творацца легэнды і казкі, што Бог сходзіў на зямлю і даў людзям гэты закон. Першы людзкі моральны кодэкс—Дзесяць запаведзяў—прышоў з маланкаю і грамніцамі ад самаго Бога, каторы ў хмарах сходзіў на гару Сінай. Так, ад'знакаю боскага натхненьня народ надяляе кожную абычаёвую форму. У гэтым яе сіла, магчымасьць валадаць людцамі, гвалтаваць іх, калі форма навет страціць свой сэнс, і запатрабуецца новае.

Другая падстава жыцьцёвасьці і сілы формы—карысьць. Калі чалавеку або грамадзе істнуючая форма здаецца карыснай, тады заўсёды эгоістычныя мэты аздабляюцца істнуючай формай. Так, формай касьцёлу карысталася духавенства. Ідэя хрысьціянскай любасьці прыкрывала самыя дрэнныя карысныя замеры: «Хто дарыць цэркві—таму вечнае спасеньне, хто адніме ад другога і дасьць цэркві—так сама спасеньне душы, а хто аднімае ад цэрквы, таму — праклеенства і вечныя мукі». Так духавенства ўсходняе і заходняе карысталася прыхільнасьцю народу да хрысьціянства, каб павялічаваць свой маёнтак. У свой час ідэя гаспадарства зрабілася канечнай, неабходнай: яе зрэалізавалі ў пэўных формах. Цяпер-жа невялікія кучкі буржуазіі, шляхэцтва ці палітычных бадзякаў напінаюць горла ад каханьня да бацькаўшчыны. Справа ў тым, што форма сучаснага гаспадарства з яго паліцыяй, прымусам і турмамі запэўняе ўдачу іх цёмных справаў, і пратэст проціў вяльможнага машэнтва раўняецца да здрады бацькаўшчыны і бяз літасьці караецца. У парывах соцыяльнага натхненьня родзяцца палітычныя партыі, а праз колькі гадоў, бачыш, жменька здольных хлапцоў круціць чалавечыя галовы, а разам не запамінае і аб сваёй кішэні.

Чым слабей разьвіта духовасьць чалавека, тым большую вагу пабірае форма: звычай, догмат, дактрына, незразумелы лёзунг. Добра ведама сіла абычаёвага права ў сялянскіх масах, фанатычная рэлігійнасьць у цёмных малаасьвечаных народаў, іх прыхільнасьць да патаемных рэлігійных формул ў незразумелай мове. На нашых вачох вырастала дзіўная сіла палітычных лёзунгаў, так сама незразумелых, а часам, і пазбаўленых зьместу, характару як самага рэакцыйнага, так і ультра-радыкальнага, якія маса сустрачала дружнымі воплескамі.

Чым душа цямней, тым панаваньне формулы непадзельней. На канчатак форма перакручаваецца ў старажытнага малоха, ў вогненнае жарало каторага маткі кідалі сваіх дзяцей. Сколькі малохаў захавалася да нашага часу? Сколькі ім прынесена незразумелых, непатрэбных ахвяр. Псыхічная прыхільнасьць масы, спрытная агітацыя—і зноў вантроба малохаў жрэ лепшыя сьветлыя, маладыя сілы чалавецтва, пэўныя у тым, што яны гінуць за лепшыя ідэі чалавецтва, што яны прыносяць сваё жыцьцё на аўтар агульна-сьветавой праўды.

* * *

Валаданьне формы над жыцьцём накладае на яго сваю пячатку: забірае сілу патрэба нярухомасьці і спакою. Заўсёднасьць і цьвёрдасьць робіцца душы прыемнай і неабходнай, як патрэба хадзіць па цьвёрдай зямлі, а не па вульканічным грунце.

І вось большасьць эўропэйскага грамадзянства набывае ідэялёгію, якую можна назваць — духовым мяшчанствам. Яно ня лічыцца са зьменнасьцю, вечнай цякучасьцю жыцьця; вечная патрэба зьмяняцца, шукаць новага—надта марудная і клапатлівая праца. Адсюль выплывае прыхільнасьць да markнага роду аўторытэтаў, пашана да пісаных законаў і констытуцыяў, зацьверджаньне доктрын, устаноўленаў моралі; паважаньне сваіх і чужых „цьвёрдых“ пераканаyньняў, здольнасьці чалавека пасьвяціць ім сваё жыцьцё, ня гледзячы на тое, ці адпавядаюць яны яго ўнутранаму пераканаyньню, ці не: ўсё гэта ня робіць клопату ў кожным выпадку думаць, як трэба рабіць, і зьвяртацца да ўласнага сумленьня.

Культура духовага мяшчанства выгадавала дзьве сапраўдныя сілы: моду і дысцыпліну. Мода моцна трымае жыцьцё ў сваёй уладзе: яе дыктатура пачынаецца ад выгляду вопраткі і канчаецца на пераканаyньнях чалавека. Мода прымушае яго падпарадкавацца яе указам, ўгрунтаваўшыся ў самым сэрцы чалавека. Ён пачынае сароміцца свае вопраткі папярэдняга сэзону, баіцца паказацца адсталым ў сваіх пераканаyньнях: рэлігійных, палітычных, філёзофскіх. Мода ставарае псыхоз на кіданьне ў пратэстанства, вяртаньне на старую веру, прымушаючы кожны раз чалавека заставацца ортодоксам. Мода прымушае быць соцыялістым, ці роялістым, гледзячы па настрою масы. Працівіцца модзе—небясьпечна, за гэта можна страціць галаву. Толькі адзінкі, вышэйшыя за масы, адважваюцца, ў часы рэвалюцыяў і, наогуль масавага псыхозу, заставацца самі сабой. Ці-ж можна было рызыкаваць пры трэціяй Імпэрыі быць камуністым, а пры камунепрыхільнікам імпэрыі?

Калі не памагае мода на сцэну выплывае дысцыпліна. Апошняя павінна бараніць выпрацаваныя ідэалы, берагчы істную-

Наадварот, у мясцовасьцях, занятых беларускімі паўстанцамі, ніякіх непарадкаў дасюль ня было. Мясцовае жыдоўскае насяленьне, як можа, ім памагае і былі навет выпадкі ахвотнага паступленьня маладых жыдоў да радоў паўстанцаў.

(Белар. прэс-бюро).

# Штодзенныя весткі.

*Пятніца, 10 чэрвеня* 1921 *г.*

— Агульны лік бастуючых у Англіі дасягае 4 мільёнаў, у іх ліку 1½ міл. вугялёвых капальнікаў.

— Румынія і Паўднёвая Славія вядуць перагаворы аб вайсковым саюзе.

— У Чэхіі забастоўка скончылася.

*Субота,* 11 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Дэлегат ад Віленшчыны — Рачкевіч рабіў даклад у Польскім Сойме. Па яго словам у Віленшчыне парадак наладжаны надта добра, экономічнае палажэньне палепшаецца і насяленьне усе больш і больш прыхільна адносіцца да Польшчы.

— Польскія партыі Z. L. N. і Ch. D. выказаліся проці праекту Гюманса.

— Немцы у Сьлезіі рыхтуюцца да націску. Нямецкія войскі адкрыта лічаць ангельцаў сваімі саюзьнікамі.

— Рада міністраў Англіі абгаварывала праект ангельска-францускага саюзу; магчым удзел у ім і Амэрыкі.

*Нядзеля,* 12 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Літоўскі дэлегат Брусэльскай Конфэрэнцыі Сьлежэвіч заявіў, што Віленскае пытаньне аканчальна вырашыцца 17 чэрвеня на пасяджэньні Лігі Народаў.

— Грабскі будзе міністрам заграніччных справаў Польшчы.

— Зьезд расейскіх дзеячоў у Парыжу разглядаў справу адносін Расеі да акраінных дзяржаваў. Зьезд безумоўна згаджаецца на незалежнасьць Польшчы і Фінляндыі. Аратары падкрэсьлівалі, што будучая Расея павінна будзе ўвайсьці ў цесныя адносіны з Літвой і Лацьвіяй.

— Дыктатарам Усх. Сыбіру, вызваленага ад бальшавікоў, будзе ген. Семёнаў.

— Амэрыка фінансуе Урад Усх. Сыбіру.

— Ёсьць весткі, што Японія хоча стварыць новую дзяржаву з Манжурыі, Корэі і расейскага Дальняга Усходу. Гэта дзяржава будзе пад пратэктаратам Японіі.

*Панядзелак,* 13 *чэрвеня* 1921 *г.*

— У Нямеччыне антыпольскія маніфэстацыі. З Вэстфаліі пішуць, што там былі выпадкі гвалтаў над палякамі.

— Газ. „Общее Дѣло“ зьмяшчае пісьмо з Рыгі, ў якім гаворыцца аб вайсковых плянах палякоў, якія нібыта хочуць заваяваць Літву, каб стварыць саюз Польшчы і Літвы на грунце двух кантонаў. Справа арганізацыі войскаў для гэтае опэрацыі, быццам, даручана ген. Рыдз-Сьмігламу.

— „Правда“ піша, што Троцкі сур‘ёзна захварэў.

— Як паведамляе „Укр. Трибуна“, гэтымі днямі у Холмшчыну выяжджаюць прадстаўнікі міжнароднай „Лігі абароны правоў чалавека і грамадзяніна“, дзеля праверкі на мясцох фактаў гвалтаў і абражаньняў у адносінах да мясцовага украінскага люду.

*Аўторак,* 14 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Міністрам заграніччных справаў Польшчы назначаны Константы Скірмунт, горадзенскі земляўласьнік, б. член Расейскае Дзяржаўнае Рады.

— У палітычных колах ходзяць чуткі, што Англія зьбіраецца даць паўнамоцтва Генікеру выдаліць паўстанцаў з В. Сьлезіі усімі магчымымі способамі. Ангельскія войскі, калі будзе патрэбна, будуць яшчэ павялічаны.

— У Камісіі Польскага Сойму абгаварываецца віленскае пытаньне. Рэзолюцыі ня выносілася. Польскі дэлегат у Брусэлі Лукасевіч кажа, што справа Віленшчыны будзе разглядацца Лігай Народаў, сэсія якой пачнецца 17 чэрвеня. Гюманс будзе рабіць доклад. Лукашевіч не спадзяваецца на добры рэзультат.

*Серада,* 15 *чэрвеня* 1921 *г.*

— „Kur. Warsz.“ даведаўся, што ангельскае войска не застанецца ў Сьлезіі, пасьля таго, яго там настане супакой. Замест іх прыйдуць войскі францускія.

— Варшаўскія газэты шмат пішуць аб рассяленьні салдатаў на ўсходніх крэсах (краінах). „Kur. Por.“ вымагае ад ураду, каб на Крэсы выехала рэвізыйная камісія, дзеля зьнішчэньня шкод і несправядлівасьці, што робіцца на мясцох.

— У Арле „чразвычайка“ прысудзіла к растрэлу 15 вучняў гімназіі ад 14 до 17 гадоў.

— Кароль Константын выяжджае у Сьмірну, каб стаць на чале войскаў у барацьбе з туркамі.

— Узьнялася забастоўка ў Бавары, на чале яе сталі незал. соцыялісты. Работнікі дамагаюцца выдаленьня ураду Корфа.

— З Украіны пішуць, што уцекшыя ад бальшавіцкага тэрору жыды, арганізуюць паўстаньні на Украіне. Сяляне ім памагаюць.

*Чацьвер,* 16 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Расейскі зьезд у Парыжы вырашыў стварыць беспартыйны нацыянальны камітэт з мэтай вызваленьня Расеі з-пад улады III інтэрнацыяналу. У камітэт між іншымі ўвайшлі І. Бунін, В. Бурцаў, П. Долгорукаў.

— Туркі абвяшчаюць, што яны будуць ваяваць з грэкамі аж да поўнага вызваленьня ўсей Фракіі і Сьмірны.

— У Варшаву прыехалі павадыры грузінскіх нацыянальных група — Чхэідзэ і Рамішвілі. Грузію, як вядома, забралі бальшавікі.

— Лінію між паўстанцамі і немцамі занялі коаліцыйныя войскі, ёсьць надзея, што цяпер у Сьлезіі будзе спакой.

— Менская „Звезда“ абвясьціла дэкрэт „Совнаркома“ аб падатках яйкамі. Кожны звычайны гаспадар павінен даваць 3 яйкі з дзесяціны, а хто мае соцыяльную кураччую гаспадарку—10 яек з курыцы.



# Провінцыяльны аддзел.

## Баруны.

Там, дзе працуюць людзі ня толькі добрай волі, але і ідэолёгі—актывісты, шмат можа быць зроблена для беларускае справы наваг і ў цяперашні час, калі спыненьне усялякае беларускае чыннасьці на правінцыі сталася на абшарах так званае Сярэдняе Літвы заданьнем момэнту з боку і чыньнікаў польскае ўлады на мейсцы і тых абшарніцкіх адзінак і эндэцкай поўінтэлігэнцыі, якія увесь час сыкаюць на нас і намагаюцца як-небудзь абчарніць усю беларускую працу; якія упарта, усюды стараюцца высьвятляць яе, як працу ці расейскую, ці—калі гэта было-б зусім абсурдам—дык як бальшавіцкую.

Эн-дэкі польскія ў сваёй злосьці на беларускі рух у Віленшчыне, які ўсё павялічаецца, дайшлі ужо да таго, што нашы Баруны сталі ліцыць ужо «бальшавіцка - беларускаю цытадэльлю“ (Głos Wileński). Але няхай: «гаспадар едзе, а сабака брэша» — як кажа наша прыказка,—«не зважайма!»

Мне давялося праяжджаць праз Баруны ў часе заканчэньня там, у нашай сэмінарыі, школьнага году, які для сэмінарыі стаўся сяголета надта кароткім. Уся мясцовая адміністрацыйная ўлада і жандармэрыя лічылі, што ня толькі школьны год, а і самае істнаваньне сэмінарыі нашай у Барунах абмяжаваны 15 мая. Ужо нарыхтаваны былі і рэпрэсыўныя меры, каб ні адна лекцыя пасьля 15--V не магла адбыцца і гэта—ў нашай *адзінай* вучыцельскай сэмінарыі. Вынік такі — мы навет у сябе дома ня маем права вучыцца у сваёй роднай мове, прыгатаўляць вучыцялёў для... пачатковых сваіх школ. І гэта—навет у тэй мясцовасьці, дзе людпасьць вясковая заўсёды гаворыць толькі пабеларуску, дзе навет на сходзе сяброў Барунскага каапэратыву «Ходзько» людпасьць запатрабавала ад прыежджага з Вільні інструктара вясьці гутарку толькі пабеларуску.

Што людпасьць ў аколіцах Барун найбольш—каталіцкае рэлігіі, дык палякамі іх няхай лічыць недавучка-агітатар эндэцыі ці «Стражы Крэсовай», але-ж ня людзі навукі, якія, пэўна, стаяць галавою вышэй віленскіх мяшчанак, для якіх *каталік* і *паляк*, дык гэта—адно. Каталіком можа быць і ліцьвін, і беларус, і паляк, і француз, і немец, і гішпанец, але каб хто-небудзь ўздумаў сказаць французу, што ён таксама, як каталік, павінен лічыць сябе паляком, дык француз гэткаму агітатару плюнуў-бы ў вочы. А ў нас дык, як мага гнуць беларуса-каталіка, каб ён лічыў сябе паляком. Нашчасьце, нідзе яшчэ вялікіх рэзультатаў гэткая

---

чыя падставы жыцьця. Дысцыпліна, вельмі паважаемая праз грамадзянства, гэта—здольнасьць пераламаць сябе і маўчаць, прымаючы тое, проці чаго дух пратэстуе, з чым сумленьне не згаджаецца. Дысцыпліна пранікае ўсе куткі жыцьця; яна бывае: рэлігійная, грамадзянская, партыйная, моральная, навуковая; ў кожным разе забараняе чалавеку рабіць па яго ўласнаму сумленьню, а толькі па выпрацаванай фор ме. Гэта—ланцугі, каторымі сьвядома апутаны чалавек, каб ён сядзеў ціха і ня рыпаўся.

Задаваленьне істнуючым і сабой асабліва характэрызуе духовае мяшчанства, ядсюль выплывае інэрцыя і непатрэбства ў зьмене старога новым. Заўсёды самае імкненьне да такой зьмены разглядаецца, як праступак, годны кары. Ад духовага мяшчанства не ратуе ні нацыянальнасьць, ні рэлігія, ні кляс, ні партыя, ні прафэсія.

Як толькі ідэя хаваецца ў драўлянасьць формы, няма ратунку, яна трухлявее, зьнікае. Паглядзеце, што зрабілася з хрысьціянствам і яго кірункамі, калі яно прыняло форму цэрквы. Дух яго зьнік, яго няма ў сучасных мураваных сьвятынях. Дух нацыянальны заўсёды мацнейшы і чысьцейшы ў народаў прыгнечаных. Разам з пачаткам рэалізацыі ўласнай гаспадарсьцвеннасьці, з яе ўціскам, нацыянальны дух прыніжаецца або і зусім гіне (прыклад Велікарасеі, Польшчы).

Здавалася, што соцыялістычны, рэвалюцыйны рух вольны ад духовага мяшчанства. Жыцьцё даводзіць, што—не, што самая рэвалюцыйная ідэя, зрэалізаваная формулай, памірае ў сваёй сутнасьці, траціць сваю жыцьцёвасьць. Прыхільнасьць да пісаных праграмаў, зацьверджаных доктрын і лёзунгаў так моцна навет у рэвалюцыянэраў, што яны зараз-жа накідаюць жыцьцю свае формулы і заместа таго, каб яго разьвіваць, мурдуюць яго, зачараваныя гукам знаёмых лёзунгаў, не бачачы, што ў труне формул калісь сьвятыя ідэі змарнелі, сплясьнелі, што час прайшоў і вымагае новай творчасьці.

Духовае мяшчанства было заўсёды, дзе захоўваліся сьвяшчэнныя традыцыі, сьвяшчэнныя асобы, рэчы і ідэі, прымусовае задаваленьне істнуючым, быццам „ўсе добра, лепей ня трэба“, — а ўсе гэта было адвеку. У нашы часы такі духовы сьветагляд зрабіўся, блізка што, агульным. Вольная творчасьць уцякла ў навуковыя кабінэты і студыі, а жыцьцё цалком аддана ў працу форм для самых формаў. Дапраўды, што робяць нашы парлямэнты, урады, суды, цэрквы, партыі, як не ўганяюдь жыцьцё ў труну формаў? І якім чынам ідзе сама праца? — Характэрным зьявішчам Эўропы зьяўляецца канцэлярыя, Праца яе сьціснута статутамі, інструкцыямі, палажэньнямі, і гэтай-жа самай стравай яна трактуе тых, хто да канцэлярыі зьвернецца. Уціснуць жыцьцё ў формулу - вось яе заданьне. І з гэтым спраўляецца вельмі шчыра. Трэба прызнаць, што ня толькі ўрады ужываюць канцэлярыю; яе дух прабіваецца туды, дзе павінна была-б працаваць творчая сіла: ў перадавыя партыі, профэсыянальныя саюзы, каапэратывы. Дух змартвеласьці вісіць над ўсей грамадзянскай працай.

* * *

Час пераканацца, што няма формаў унівэрсальных, формаў, абхопліваючых усе жыцьцё і яму адпаведных. Не затрымалася чалавечае сумленьне ні на аднэй форме, цудоўны цяг імкне яго далей, вышэй. Упалі ўсе формы, якія хацелі панаваць над чалавекам, бо ня можна з чыстым сумленьнем пасьвячаць ім свае душы. Ляжаць разьбітыя і растрэсканыя каля ног чалавека малох рэлігіі, гаспадарства, пісанай моралі і яшчэ, і яшчэ.

Ня мёртвыя формы, а сам чалавек—гаспадар свайго жыцьця. Ён творыць усе формы жыцьця, яны залежны ад чалавека, а не чалавек мусіць заставацца пад мертвай уладай струхлеўшых формаў: рэлігіі, моралі, законаў, агульных зданьняў. Час зразумець, што жыцьцё кіруець формамі, а не наадварот, што сам чалавек, яго вялікая, родная сонечным праменьням душа, яе натуральныя імкненьні да сьвятла, хараства, праўды — зьмест жыцьця, што ў праўдзівым незалалежным жыцьці няма месца ні ідалам, ні ахвярам.

Трэба памятаць, што жыцьцё цячэ, што душа чалавека не стаіць, што чалавек павінен укладаць сваё жыцьцё так, як яно разьвіваецца і льецца. Нажаль, гэта—незразумела і нячутна. Гэтае права гвалцяць і над ім зьдзекуюцца ад часоў, калі палыхалі жывыя вогнішчы Нэрона і сьв. інквізыцыі і да нашых часоў кулямёту і гумовай палкі.

У абодвых культурах Эўропы над жыцьцём зьдзекуецца форма: ў аднэй—моноліт, у другой — рассыпаная ў крышталы. Бальзамаваць-жа можна ня жывых, а толькі трупы. Прырода нам даводзіць, што еднасьць формы і сутнасьці — неабходная умова жыцьця. Форма павінна быць, без яе жывое ня можа абыйсьціся. Толькі бесканечнае, вечнае ня мае формы. У форме — сутнасьць матар‘яльнага жыцьця. А яно льецца, як рака, зьмяняецца, як праменьні сонца ў кроплях расы. Чалавечая душа — такая-ж кропелька, іграючая кветкамі праменьняў. Трэба-ж ня сьціскаць, не хаваць футлярамі гэтай ігры, трэба даць поўную магчымасьць зіхацець няліччаным багацьцем фарбаў. У гэтым сэнс жыцьця і яго хараство.

У прыстасаваньні формаў жыцьця да гэтай зьменнасьці, ліючасьці, ў шуканьні формаў жыцьця элястычных, цякучых, зьменных—зьмест будучыны, зьмест індывідуальнага і соцыяльнага ідэалу.

**Ігнат Абдзіраловіч.**

(Працяг будзе).



### Сцэнічная праца.

Як мы даведаліся, Беларускі Музыкальна-Драматычны гурток у Вільні, да кіраваньня тэатральнаю справаю якога заклікаваны вядомы артыста Абрамовіч, у бліжэйшыя часы паставіць цэлы рад беларускіх спэктакляў з выступленьнямі нанова арганізованага беларускага хору п. Згірскага.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Беларуская сіла.

Беларусы растуць як на дражджох. Нядаўна ў Вільні адбыўся зьезд прадстаўнікоў ад каапэратываў. На гэтым зьездз найбольш было беларусаў. Падчас выбараў у урад Віленскага Саюзу Каапэратываў, прайшлі блізу выключна беларусы. З гэтага мы павінны цешыцца, бо шмат хто нас крыўдзіць, дык мы самі сябе бараніць павінны ўсюды. А калі дружна будзем выступаць, дык усё нам ніпачом.

### Прасьледаваньне літоўцаў.

Апошнім часам польская эндэцкая ўлада нязвычайна прасьледуе. літоўцаў. Нядаўна рэдактар газ. «Vilnius» быў аштрафаваны на 50.000 м. п., а цяпер узноў мусіць заплаціць 20.000. Апрача таго радактару прыраклі, што газэту могуць хутка саўсім закрыць, калі яна не пачне пісаць так, як эндэкі жадаюць. Дык вот да чаго дажыліся!

### Узноў Сойм.

На апошнім паседжаньні Часовай Урадавай Камісіі ген. Желігоўскі заявіў, што ўсё складаецца так, што прыдзецца склікаць Сойм у Вільні. Дзеля гэтага маець пачацца перапісь людзей у Віленшчыне.

### Беларускія школы.

Па статыстыцы Дэпартамэнту Прасьветы, на тэрыторыі Сярэдняй Літвы ёсьць 158 беларускіх пачаткавых школ,— ў якіх працуе 182 вучыцялёў і вучацца 7,734 дзяцей. Сярэдніх школ 2.

### Расейскія школы ў Вільні.

Дэпартамэнт Асьветы ладзіцца з новага 1921—22 вуч. году адчыніць у Вільні адну ці больш сярэдніх школ для не-польскай моладзі з выкладаньнем на расейскай мове. Разам будзе дэтальна выкладацца польская мова, і пступова расейская мова будзе заменена польскай. Родную мову і гісторыю Расеі вучні будуць вучыць па расейску. Па сканчэньні поўнага курсу адбудзецца экзамэн на атэстат сьпеласьці, які дасьць такія правы, як і ўрадавыя школы.

### Адстаўка Ахматовіча.

Дырэктар Дэпартамэнту Юстыцыі Ураду Сяр. Літвы падаў прозьбу аб адстаўцы.

### Апраўданьне М. Біржышкі.

Акружны Суд апраўдаў рэдактара газэты «Straż Litwy» М. Біржышку, абві. навачанага за артыкул аб сьв. Казіміру-Пракурорскі надзор знаходзіў у гэтым артыкуле пасьмяханьне з рэлігіі (кашчунства).

### Ў каапэратыве „Райніца“.

Беларускі каапэратыў «Райніца» адтрымаў з Сьлезіі 280 свіней. Усе свіньні з дыплёмамі. Прадажа вядецца на Конскай вул. № 18. Паказаны транспорт ёсьць апошні, таму што з падвышэньнем чыгуначнага тарыфу на 120 процэнтаў і розьніцы ў курсе грошай, немагчыма рабіць далейшыя закупкі.

---

Віленская Сувязь Каапэратываў абложана падаткам ў $1^1/_2$ мільёна польскіх марак.

### Б і р ж а.

У Вільні адчынілася офіцыяльная біржа (гелда).

## Пісьмы у Рэдакцыю.

### I.

Паважаны пане Рэдактар!

У № 23 газ. „Н. Д.“ надрукаваны адказ К. Мядзёлку, што грошай, пасланых ім праз вучыцельку Проньку не дасталі.

Заяўляю, што я ніякіх грошай ад К. Мядзёлкі не адтрымала і наогул ад яго ніякіх даручэньняў ня мела.

Вучыцелька *С. Пронька.*

Вільня, 14. VI. 1921 г.

### II.

Паважаны гр. Рэдактар.

Дайце раду. Ільскій раеновы не дапускае «Н. Д.» у свой раён. Арэштоваваюць хлопцаў і дзеўчат, што тут ставяць беларускія ігрышчы. Працаваць не магчыма; дзе.—ў чым паратунак? Вельмі усе засмучаныя па „Н. Д.“

Хай Нацыян. Камітэт паклапоціцца, ну хоць запротэстуе. Можа можна выдумаць іншую дарогу каб адтрымліваць „Н. Думку“.

Парайце—парадуйце.

Бывайце. **Л. Р.**

Альковічы. 4. VI. 1921 г.

## Паштовая скрынка.

*Кастусю Маеўскаму.* Грошы 410 мар. на перасылку газэт у 17 школ адрымалі; газэты пасланы. Звольненыя вучыцялі так сама могуць адтрымаць „Н. Д.“, выслаўшы грошы на перасылку. Вучыцельскія курсы пачнуцца каля 25 чэрвеня. зволеныя так сама могуць паступаць на курсы

*Курылю „Н Д.“* ўвесь час Вам пасылаецца. Не адтрыманыя Вамі нумары пасылаем яшчэ раз.

*Багушевічу.* Вы лічыцесл падпісчыкам ад 15 красавіка да 15 ліпня; газэта пасылаецца Вам увесь час. Пасылаем яшчэ раз №№ 20, 21, 22 і 23.

*Драздовічу.* Газэты пасылаем, прышлеце падпісныя грошы.

*А. Русаковічу. Каўшары.* Газэту пасылаем, высылайце падпісныя грошы 150 марак.

*Кн. Сапега-Ваявода. Бэрлін.* Усё што просіца пасылаем. падпісныя грошы высылайце па адрэсу рэдакцыі. Падпісная плата на год за граніцу—1.000 польскіх марак.

## Віленская біржа (гельда).

15 чэрвеня (іюня) 1921 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Царскія 500 р. | | 1575 | мар. |
| „ 100 „ | | 475 | „ |
| Доляры | | 1280 | „ |
| Фунты | | 4800 | „ |
| Франкі | | 105 | „ |
| Нямецкія маркі | (1000) | 1910 | „ |
| Осты | (1000) | 1875 | „ |
| 10 руб. золатам | | 5700 | „ |
| 1 „ серабр. | | 265 | „ |
| „ „ „ дробнымі | | 120 | „ |

## Інформацыйны аддзел.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт,** Вільня, Вострабрамская 9, пакой 5. Старшыня Фабіян Ярэміч. Сэкрэтар Кахановіч. Камітэт адчынены штодня, апроч сьвят, ад 11 да 2 гадзіны. Паседжаньні пленуму у панядзелкі ад 6 гадзіны.

**Юрыдычны Адзел** Б. Н. К. адчынены ад 11 да 2 гадзіны ў дзень. Прыймаецца складаньне просьбау і заяў у беларускай і польскай мове і кіраваньне рознымі юрыдычнымі справамі. Бедным рада дарма. Дзеля працы ў аддзеле запрошаны спрактыкаваныя юрысты.

**Інструктарскі Аддзел** Б. Н. К. пасылаець інструктароў на правінцыю, памагае арганізацыям радай, коштамі, літэратураю. Загадчык А. Карабач.

**Беларуская Школьная Рада,** Вільня Вострабрамская, 9. Старшыня М. Кахановіч, сэкрэтар А. Луцкевіч. Клапоціцца аб беларускіх школах і наагул аб справах беларускае асьветы. Памагае радай, коштамі і кнігамі.

**Беларускае Выдавецкае Т-ва** выдае ўсялякія кніжкі ў беларускай мове. Сябраў прыймае Урад Т-ва. Уступная плата—50 м., сяброўская гадавая складка—100 м. Адрэс Т-ва Вільня, Віленская вул. № 33, кв. 1 (адчынена ад 4 да 5 гадз. у дзень). Старшыня А. Луцкевіч, сэкрэтар С. Рак.-Міхайлоўскі.

**Беларуская Кнігарня** Беларускага Выдавецкага Таварыства, Вільня, Завальная, 7. Прадаюцца усялякія кнігі, падручнікі для пачаткавых школ і гімназій, поўныя зборы твораў беларускіх клясыкаў, сцэнічныя творы, песьні з нотамі, газэты і розныя пісьменныя матар'ялы (сшыткі, алаўкі, пёры і шмат інш.). Прыймаюцца заказы ад школ і культурна-асьветных арганізацый па самай сходнай цане. Каталёгі высылаюцца дарма.

**Беларускі Школьны Аддзел** пры дэпартамэнту асьветы. Вільня, Каўкаская вуліца (рог Вялікай Пагулянкі), 2, трэйці паверх, налева, Рэферэнт Б. Тарашкевіч.

**Першая Віленская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат), Вільня, Вострабрамская, 9. Дырэктар М Кахановіч, інспэктар А. Дмахоўскі. Гімназія ў складзе 8 аснаўных (ёсьць паралельныя) і 2 прыгатавальных клясаў, з інтэрнатам пры ёй. Навука ў гімназіі даступна для самых незаможных дзяцей. Лепшыя вучні з пачаткавых беларускіх школ маюць магчымасьць паступіць у гімназію і вучыцца ў ёй зусім дарма. Скончыўшыя гімназію ў 1920 г. вучацца цяпер ў Віленскім унівэрсітэтце і ў вышэйшых школах заграніцай.

**Беларускія пачаткавыя школы ў Вільні.** 1) Кальварыйская, 73. 2) Лідзкі тракт, могільнік. 3) Радунская 27-а. 4) Зарэчча, Панамарская, 12. 5) Аранбурская вуліца. 6) Антокаль. 7) Пры Беларускай гімназіі. Навука бясплатная. У кожнай школе даецца дзяцём сьнеданьне, а бяднейшым—вопратка.

**Цэнтральная Рада Беларускага Вучыцельскага Саюзу.** Канц. 1-й Віленск. Бел. Гімн., Вільня, Вострабрамская, 9.

**Першая Горадзенская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат). Есьць вакансіі ўва ўсіх клясах. Горадня, вул. Ожэшковай, № 28.

**Беларуская гімназія ў Гарадку** Вялейскага павета, Віленскае губэрні. Дырэктар Тышкевіч.

**Алёна Сакалова**—беларуская прадстаўніца у Амэрыканскім Камітэце Помачы дзяцём, Вільня, Вострабрамская, 9 пакой № 16, прымае ад 3 да 4 гадзіны.

**Прытулак Камітэта помачы,** Вільня, Вострабрамская, 9, (будынак гімназіі), Загадчыца Л. Васілевіч.

**Беларускі коопэратыў „Райніца“** Вільня, Вялікая Пагулянка, 17.

**Віленскі Саюз Коопэратываў,** Малая Пагулянка, д. № 12.

**Грамадз. Сабраньне Белар. Музыкальна-Драматычн. Гуртка,** Біскупская 12.

**Новаадчыненая спецыяльная Паліклініка венэрычных хвароб:** Людвісарская (Прэображэнская) № 14. Трыпер, сыфіліс (606—914), мочэплацёвыя, скурныя, бязсільле плоці, белі і інш. Прыймовыя гадзіны: для мушчын $8^1/_2$—$10^1/_2$ раньн. і 4 — 7 гадз. ўвеч. для кабет — ра—1 г. дн., што дня.

**Доктар А. В. Краскоўскі** (агульная медыцына). Прыймовыя гадзіны: ад $8^1/_2$ да 10, 2—3, 6—$7^1/_2$. Вільня, Вострабрамская, 20, кв. 6.

**«Krynica»** biełaruskaja tydniowaja hazeta. Redakc. i administracyja: Zawalnaja wul 7; ad 9—6. „KRYNICA“ kaštuje: na hod. 300 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk., asobny numar 5 mk.

**„Маладое жыцьце“** — часопісь беларускай вучнёўскай моладзі — Вільня Вострабамская, 9.

„I e d n a ś ć“—беларуская газэта.

**Шляхі да „Нашай Думкі“: Рыга**, Nikolaistr. 20. — **Копэнгага В,** Dannebrogsgade 39 A. — **Прага,** Wenzigowa 4. — **Бэрлін, W. 30,** Motzstr. 21. — **Чыкаго,** 1252 So Union ave, U. 5. 17. —**Нью-Іорк.** 728 Stanway ave Long Jsland City — **Канстантынопаль,** Брусса, № 27.—**Рэваль.** Post kast 153 — **Парыж.** 25 Avenue Viktor Emmanuel III. — **Горадня,** вул. Ожэшковай 28. — **Варшава,** Шпітальная 12, кв. 29, Беларускі Нацыянальны Камітэт.— **Ліда,** Вісмонты, 48. — **Саколка,** Беластоцкая вул., п. Індурскі, р. Парук. — **Люцын,** Рэжыцкая вул., 38. — **Дзьвінск,** Варшаўская, 56 — **Баранавічы,** Шашова 112. — **Несьвіж,** Гарадзейская, 96.

**Рыскі аддзел Беларускага Культурна-Прасьветнага т-ва «Бацькаўшчына»**—Latwija, Riga, Nikolai ul'a, 20, dz. 1. Старшыня — К. Езавітаў, Сэкрэтар — Хургін.

**Беларускае Культурна-Прасьветнае т-ва «Бацькаўшчына» ў Латгаліі**—Latwija, Riga, Witebskaja, 16. Старшыня—Я. Харлап, сэкрэтар—П. Паўчэр.

**Люцынскі Аддзел Беларускага Культурна Прасьветнага т-ва «Бацькаўшчына» ў Латгаліі**—Latwija, Ludze, Sjebežskaja, 66. Старшыня—С. Сахароў, сэкрэтар—М. Іваноў.

**Рада Беларускай Колёніі ў Латвіі**—Latwija, Riga, Bulw. Totlebena, 7, dz. 3. Старшыня—Зэліксон.

---

Запісь ў Інформацыйны Аддзел „Нашае Думкі“ прыймаецца на 3 месяцы па асобнай згодзе.

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 125 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“,** выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»,** адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“,** трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі,** укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.

**Францішк Аляхновіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.



Рэдактар і выдавец А. Кабычкін.

Друкарня Віленскага Выдавецтва Б. А. Клецкіна.